Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№34 люты 2014

# Прэзумпцыя

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## Пасаромленне мудрых

Хто б мог сабе ўявіць, што Майдан, які пачынаўся з некалькіх дзясяткаў (!) чалавек і першую ноч на якім выстаялі сто пяцьдзесят (!) чалавек, скончыцца звяржэннем данецкага уркі?

Уявіць сабе гэтага ніхто не мог ні 21 лістапада 2013 года, калі ўсё пачыналася, ні нават 21 лютага 2014 года, калі хам падпісваў адступленне – ніхто не мог і падумаць тады, што ўжо 22 лютага ён будзе зрынуты.

А колькі мы маглі з вамі чытаць прагнозаў цуда-спецыялістаў: палітолагаў, аналітыкаў і падобных ім пра тое, што рэвалюцыя Майдана наўрад ці чаго даможацца? Такіх была абсалютная большасць. Ды што тут казаць: ці не ўсё мы імкнуліся быць мудрацамі? Я вось сам, які ледзь не экстрэмістам лічуся некаторымі на нашых шыротах, і тое паддаўся гэтаму мудрагельству: быў упэўнены і на пальцах мог даказать, што Янука да выбараў не скінуць.

Але Бог дзейнічае па-Свойму. Бог дзейнічае тады, калі па-чалавечы няма ніякіх надзеяў. Бог заўсёды (заўсёды!) дзейнічае так, каб пасароміць людскую мудрасць! Бог кажа: “Дзеля Сябе , дзеля Сябе Самога раблю гэта, – бо якое было б нараканьне на імя Маё! славы Маёй ня дам іншаму” ( Ісая 48:11). Бог ніколі і нікому не аддасць Сваёй славы! І найяскравейшы прыклад гэтаму – Украіна.

Ну паглядзіце, як пасаромлена мудрасць Еўропы, якая тры месяцы спакойна назірала за кровапраліццём у суседняй дзяржаве. Вы запярэчыце: не, не назірала яна спакойна! Вядома, не спакойна назірала, – згаджаюся я, – яна, старушка бяззубая, прыняла шмат рэзалюцый і нават пястрашыла ўвесці не абы якія санкцыі – а такія ж санкцыі, як і ў дачыненні да Лукашэнкі. Большага здзека і не прыдумаць. Але вы ўявіце сабе, як бы ганарыўся ЕС, калі б толькі еўракамісары маглі прыпісаць сабе рэвалюцыю ва Ўкраіне?

Паглядзіце таксама, як пасаромлена мудрасць Расеі, якая збіралася выкарыстоўваць (па заявах МЗС) увесь (увесь! – смех у зале!) свой уплыў. Вы скажаце: дык няма ў Расеі ніякага ўплыву! Вядома, няма, – зноў згаджаюся я, – але ж яна-та думала, што ёсць! І вы ўявіце сабе, як бы заганарыўся імпэрскі шавінізм халдзеяў, калі б толькі камунакамісары маглі падмяць пад хама гэты непакорлівы ўкраінскі народ?

Здавалася б, што могуць зрабіць гэтыя некалькі дзясяткаў чалавек, якія паўсталі супраць дзяржмашыны? Мудрыя палітолагі даводзілі: куды лезуць гэтыя дурні – бо нават выбараў ніякіх няма гэтай зімой! Моцная ўлада пасмейвалася: куды лезуць гэтыя нямоглыя супраць нашага «Беркута»?

Але Біблія кажа: “Бог выбраў неразумнае сьвету, каб пасароміць мудрых, і нямоглае сьвету выбраў Бог , каб пасароміць моцнае; і бязроднае сьвету і пагарджанае і нічога ня значнае выбраў Бог, каб зьнішчыць значнае, – для таго, каб ніякая плоць не пахвалялася перад Богам” (Першае пасланне апостала Паўла да Карынцянаў 1:27-29).

Свет думаў, што яны нямоглыя, а яны перамаглі МУС, СБУ і «Беркут» – усіх разам узятых. Свет думаў, што яны неразумныя, а яны пасаромілі ўсіх разам узятых аналітыкаў, палітыкаў і палітолагаў – і заходніх, і ўсходніх. Значныя царкі глядзелі на іх грэбліва, але цяпер гэтыя самазванцы трасуцца ў тронах сваіх, і самі сабе даказваюць, што “Майдану ў нас не будзе”. А ўсё гэта для таго, каб ніякая плоць не пахвалялася перад Богам.

Але плоць хваліцца хоча. Плоць шукае паліталагічныя прычыны рэвалюцый. Шукае іх па той прычыне, што не разумеюць мудрацы: народамі кіруе Гасподзь – менавіта ¨н і толькі ¨н падымае людзей на паўстанні супраць бязбожных цароў. Калі вы не верыце ў гэта, прачытайце хаця б адзін раз Біблію. Калі вы не верыце Бібліі, тады чакайце. Проста чакайце. Яшчэ трохі – і ўсім будзе зразумела, што рэвалюцыя ва Ўкраіне – гэта звышнатуральнае дзеянне Госпада. І не проста звышнатуральнае дзеянне ва Украіне, а звышнатуральнае дзеянне ва ўсёй Усходняй Еўропе. Бо наш Бог – гэта не Бог хаосу і выпадковасцяў, а Бог парадку і плана.

Казаць аб украінскіх падзеях, як падзеях выключна Ўкраіны гэтак жа неразумна ці нават смешна, як калі б мы гаварылі аб польскім руху “Салідарнасць”, зрынуўшым камуністычны рэжым у Польшчы – як аб выключна польскіх падзеях. Бо з вышыні гісторыі абсалютна ясна: польская “Салідарнасць” стала пачаткам канца камунізму ва ўсім Усходнім блоку. У канцы ХХ стагоддзя Гасподзь абраў Польшчу, каб пачаць Сваё цудоўнае вызваленне народаў ад камуністычнага рабства. У пачатку ХХІ стагоддзя ¨н абраў Украіну, каб назаўсёды вызваліць Усходнюю Еўропу ад рускага шавінізму, каб паставіць апошнюю кропку на ўсіх спробах Крамля адрадзіць імперыю зл

Калі ж заўтра вам будуць цуда-аналітыкі распісваць аб тым, што вызваленне ад беззаконікаў у Беларусі нерэальна – ізвергніце з вуснаў пісаніну гэтую. Калі заўтра вам будуць цуда-палітыкі ўцюхіваць, што толькі эвалюцыйным шляхам магчымыя перамены – папрасіце іх, скажу вам паліткарэктна, змоўкнуць.

Памятаеце пра тых некалькіх дзясяткаў неразумных і нямоглых, якія 21 лістапад 2013 года прыйшлі на Майдан Незалежнасці.

Заўсёды памятайце, што Бог абірае неразумнае свету, каб пасароміць мудрых, і нямоглае свету абірае Бог, каб пасароміць моцнае – для таго, каб ніякая плоць не пахвалялася перад Богам.

Зміцер Дашкевіч, сустаршыня Маладога Фронту

# Сярод забітых у Кіеве паўстанцаў — беларус Міхаіл Жызнеўскі

***Беларус Міхаіл Міхайлавіч Жызнеўскі стаў трэцяй ахвярай сутыкненняў на вуліцы Грушаўскай у Кіеве. ¨н атрымаў агнястрэльнае раненне ў сэрца. Міхаіл Жызнеўскі нарадзіўся 26 студзеня 1988 года, ён не дажыў некалькіх дзён да свайго 26-годдзя.***

Жызнеўскі ўваходзіў у каманду Віталя Клічка, але пры гэтым быў



актывістам украінскай нацыяналістычнай арганізацыі УНА-УНСО. Меў мянушку «Локі».

«Я Міхаіла ведаў гадоў дзесяць. Пазнаёміліся, бо абодва займаліся страйкболам. Пачалі кантактаваць. ¨н вельмі добры чалавек, адносіўся дружалюбна да ўсіх. Вясёлы. Перад Майданам мы з ім амаль штотыдзень бачыліся. Ведаю, што на Майдан ён ішоў ад «Моладзі Клічко», быў сябрам гэтай арганізацыі. Яшчэ разам з ім удзельнічалі ў рыцарскім руху. Я ведаю, што Міхаіл — беларус. Але ён вельмі даўно жыў у Кіеве. Ведаю, што часам ён ездзіў на радзіму. Але пра Беларусь мы з ім, на жаль, не размаўлялі», - кажа сябра Міхаіла Жызнеўскага Яўген.

«Наша Ніва» расшукала былую грамадзянскую жонку загінулага ў Кіеве беларуса Міхаіла Жызнеўская.

«¨н быў вельмі добры чалавек, у прынцыпе, пра кепскае ўжо гаварыць не мае сэнсу. ¨н быў сябрам белацаркоўскай суполкі УНА-УНСО. У Белай Царкве пра яго ніхто кепскае нічога сказаць не мог. ¨н усім прадстаўляўся як Лёша, я ведала яго сапраўднае імя, але ён прасіў нікому яго не расказваць. Ведаю, што Міхаіл выехаў з Беларусі, бо ў яго былі нейкія праблемы з законам, але яму ўдалося даказаць сваю невінаватасць.

Калі мы жылі разам, то ён працаваў на мэблевай фабрыцы ў Белай Царкве, потым усталёўваў вокны ў дамах», — расказала «Нашай Ніве» Юлія.

Аляксандар Панчанка: «¨н быў байцом УНА-УНСО, даволі сьмелая і яскравая асоба. Хоць я яго нядоўга ведаў, але ён пакінуў пасьля сябе добрыя ўспаміны. Праз тое, што ён быў з УНСО, кантактаў не разгалошваў. Ведаю толькі, што ён родам з Гомеля і што там яго родныя. Апошні час жыў і працаваў у Кіеве і Белай Царкве».

«Ва УНСО яго ведалі як Аляксея, хоць найбольш называлі псэўданімам — Локі. Сапраўднага імя ён практычна нікому не казаў, таму ня ведаю, ці сапраўды яго звалі Міхаіл».

«Быў у самаабароне Майдану,



ахове аб’ектаў Майдану, дапамагаў у працы УНСО на Майдане, таксама дзяжурыў у намётах, даваў інтэрвію журналістам. Быў адным з найактыўнейшых актывістаў УНСО на Майдане. Вельмі адказны і энэргічны чалавек, адрозьніваўся высокай камунікабэльнасьцю і ўвесь час меў добры настрой.

Віталь Лук’янчук: «Пражывае ў Белай Царкве. Пра яго як пра чалавека можна сказаць шмат чаго добрага. ¨н мэтанакіраваны, упэўнены ў сабе, заўжды меў патрыятычныя погляды, захапляўся спортам. Найбольш яму



падабаліся экстрэмальныя віды спорту…»

Аляксандар Панчанка: «¨н палітычны эмігрант зь Беларусі. Выехаў, калі яшчэ быў малады, здаецца, у 18 гадоў. Я цяпер не прыгадаю, чаму, але ён казаў — праз новы віток палітычнага ціску. Яму пагражала турма за ягоную дзейнасьць, таму ён і яшчэ адзін чалавек выехалі. На жаль, я так і не пагаварыў зь ім дэталёва на гэтую тэму».

Як паведаміў прэс-сакратар Украінскай нацыянальнай асамблеі (УНА-УНСО) Сяргей Чумак, забіты беларус належыў да іх арганізацыі. ¨н пражываў ва Украіне ўжо 10 гадоў.

# Народ супраць мафіі

***Падзеі, якія адбываюцца зараз ва Ўкраіне, закранаюць не толькі гэтую самую вялікую па тэрыторыі еўрапейскую краіну (калі не лічыць еўразійскую Расію), але і многія іншыя дзяржавы нашага кантыненту. З глабальнага гледзішча паскорыўся працэс распаду постсавецкіх таталітарных рэжымаў. Савецкі саюз, які ўжо даўно перастаў існаваць як дзяржаўнае ўтварэнне, на жаль, жыве дагэтуль у іншых формах, якія імкнецца жывіць і падтрымліваць ад веку імперская Масква. Але кола гісторыі адкруціць назад не ўдасца нікому.***

Гледзячы незалежныя ўкраінскія тэлеканалы, адразу звяртаеш увагу на розніцу паміж падзеямі Аранжавай рэвалюцыі 2004-га году і цяперашнім народным паўстаннем. Тады галоўнай рухальнай сілай зменаў былі ангажаваная апазіцыя ды заходнія вобласці, якія характарызуе высокая ступень нацыянальнай сведамасці. Зараз жа супраць рэжыму Януковіча выступае вялікая колькасць і рускамоўных людзей. Характэрнае патрабаванне народу ёмка сфармуляванае кароткім лозунгам “Банду – гэць!”. Не прэзідэнта, не ўладу і нават не дыктатуру. Прэч менавіта банду, мафіёзны клан алігархаў, якія пераўтварылі краіну ў зону беззаконнасці, татальнай карупцыі і падману. Украіна перажывае сапраўды народнае паўстанне супраць такога стану рэчаў. Што б не казалі і плявузгалі імперскія прапагандысты, сёння дзяржаўнай уладзе супрацьстаяць найперш не экстрэмісты, не нейкія ультра-радыкалы, у Ўкраіне паўстаў цэлы народ, кожны сумленны неабыякавы чалавек не можа заставацца ўбаку ад Майдана. Людзі выйшлі на вуліцы амаль усіх абласных цэнтраў і вялікіх гарадоў. Супраць іх дзяржаўныя сілавыя структуры і бандыты розных масцяў, якія гуртуе і нацкоўвае ўлада, якім плацяць грошы і якія ў сваёй абсалютнай бальшыні не маюць аніякіх ідэалаў ці каштоўнасцяў, апрача асабістай выгады. Сітуацыя ўжо выйшла з прававога поля. Акрамя застрэленых спецназам пратэстоўцаў у цэнтры гораду, людзей па-бандыцку выкрадаюць, вывозяць з Кіеву, катуюць, кідаюць на марозе, разбіваюць і паляць аўтамашыны з іншагароднімі нумарамі. Дастаецца і журналістам, многіх з якіх даволі сур’ёзна збілі.



Прэзідэнт Януковіч, праўдападобна, быў ужо гатовы ўвесці ва Ўкраіне ваеннае становішча і падавіць брутальнай сілай народнае паўстанне, праліць вялікую кроў. Ад гэтага яго ўтрымалі ўчарашнія паплечнікі, ўплывовыя алігархі, якія гатовыя ў зручны момант “здаць” свайго “боса” – усё дзеля ратавання сваіх банкаўскіх рахункаў у чужых Еўропе і Амерыцы, якія яны баяцца куды менш, чым роднаснай для іх Расіі, у якой няма ніякіх правілаў нават для “сваіх”. Здавалася б, маналітная яшчэ месяц таму Партыя рэгіёнаў, зараз трашчыць і развальваецца. Януковіч яшчэ можа нарабіць бяды і зла, але гэта ўжо палітычны труп.

Характэрна, што і палітычная сістэмная апазіцыя – фактычна толькі дадатковы чыннік падзей, амаль усе сур’ёзныя аглядальнікі і аналітыкі адзначаюць, што лідары апазіцыйных партый маюць толькі пэўныя ўплывы на Майдан і змушаны лічыцца акрамя ўлады, з народнай сілай, узгадняць з народным вечам свае патрабаванні і дзеянні. Пры тым уласна лідары трох буйнейшых партый выглядаюць не зусім выразна. А часам проста бляклa. Іх максімум – дамагчыся вяртання Канстытуцыі 2004 году і зрабіць Украіну зноў дзяржавай з парламенцка-прэзідэнцкай формай кіравання. Калі гэтага ўдасца дасягнуць – ужо будзе добра, бо з’явіцца эвалюцыйная мажлівасць пераходу да дэмакратычнага рэфармавання і мірнага ўладкавання краіны.

Калі пераключаешся на расейскія тэлеканалы, трапляеш у іншы свет – прастору шавіністычнай нянавісці да ўсяго ўкраінскага. Вядоўцы, “народныя дэпутаты”, дырэктары нейкіх аналітычна-стратэгічных цэнтраў, псеўдаэксперты проста захлынаюцца слінай ад эмоцый і злосці. Яны так і не зразумелі, што адбываецца ва Украіне зараз. Яны не хочуць разумець, што на Майдан і плошчы іншых гарадоў выйшлі не аплачаныя захадам “бандэраўцы”, як яны гэта падаюць. На плошчы выйшлі украінцы, беларусы, рускія, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, якія хочуць вызваліць Украіну ад мафіі і жыць у нармальнай краіне.

*Уладзімір Хільмановіч*

## На ўсіх 23-х фанатаў БАТЭ, якія зладзілі акцыю салідарнасцю з Украінай, гатовыя судовыя пастановы

На ўсіх 23-х барысаўскіх удзельнікаў акцыі ў падтрымку Майдана ляжаць гатовыя лісты судовых пастаноў на розныя адміністрацыйныя тэрміны,паведаміў у сваім фэйсбуку грамадскі дзеяч з Барысава Сяргей Салаш, які шчыльна кантактуе з заўзятарамі.




«Карацей, фанаты БАТЭ ў шоку. Бачна, што хлопцы ўпершыню з такім сутыкнуліся», — дадае ён.

Нагадаем, што ў панядзелак СМІ абышоў здымак, на якім 23 фанаты дзесяціразовага чэмпіёна краіны па футболе барысаўскага БАТЭ сфатаграфаваліся з бел-чырвона-белым сцягам і плакатамі «Трымайся, Украіна, мы з вамі!» і «Героям слава!».

У пятніцу, 31 студзеня, стала вядома, што як мінімум два фанаты асуджаныя на пяць сутак за акцыю. Гэта пры тым, што твары фанатаў былі на фота, у мэтах бяспекі, размытыя.

## Мінчука збілі і даставілі ў міліцыю за бел-чырвона-белы сцяг на балконе

8-га лютага Віктар Шаршун знаходзіўся у сваёй кватэры на бульвары Шаўчэнкі, калі невядомы пазванілі ў дзверы, прадставіўшыся супрацоўнікамі



ЖЭС. Як выявілася пасля, насамрэч гэта былі супрацоўнікі міліцыі. Не прадставіўшыся, яны загадалі грамадзяніну зняць бел-чырвона-белы сцяг, які вісеў на ягоным балконе, паколькі, па іх словах, гэта сімволіка з'яўляецца незарэгістраванай. Віктар Шаршун адмовіўся гэта рабіць і паспрабаваў зачыніць уваходныя дзверы. Тады супрацоўнікі міліцыі выцягнулі яго не лесвічную пляцоўку, пачалі збіваць. З кайданкамі на руках Віктара Шаршуна даставілі ў Цэнтральны РАУС г.Мінска, дзе ён прабыў да позняга вечара, аднак ніхто не тлумачыў прычыну затрымання, пратакол адміністратыўнага правапарушэння таксама не складаўся. Каля 21 гадзіны грамадзяніна даставілі на вул. Мініна для праходжання агляду на прадмет ужывання алкаголю. Пасля таго яго ізноў адвезлі ў Цэнтральны РАУС. Мужчына дрэнна сябе адчуваў, давялося выклікаць хуткую дапамогу, якая гаспіталізавала яго ў 2-ю клінічную бальніцу.

Прававую падтрымку Віктару Шаршуну аказвае ПЦ "Вясна".

## Экспертызу кнігі “Асьвечаныя Беларушчынай” суд прызнаў непрымальнай, але кнігу забараніў

11 лютагаў судзе Ашмянскага раёна суддзя Таццяна Емельяновіч агучыла рашэнне па выніках разгляду грамадзянскай справы сябры ПЦ «Вясна» Таццяны Рэвяка супраць Ашмянскай мытні.



Праваабаронца падавала ў суд пазоў з нагоды забароны мытнікаў на ўвоз на тэрыторыю Беларусі кнігі літаратуразнаўчых артыкулаў і эсэ “Асьвечаныя Беларушчынай” Алеся Бяляцкага. Пасля дзвюх “экспертызаў” выдання мытнікі запатрабавалі ад Таццяны Рэвяка рээкспартаваць 40 асобнікаў, канфіскаваныя ў яе на беларуска-літоўскай мяжы, на тэрыторыю Літвы, дзе была выдадзена кніга.

10 лютага грамадзянская справа была разгледжана ў судзе. Падчас паседжання суддзёй былі заслуханы бакі, вывучаліся пісьмовыя матэрыялы справы, адбыліся судовыя спрэчкі бакоў, выступілі сведкі з боку праваабаронцаў - Сяржук Сыс і Андрэй Палуда, якія засведчылі, што Таццяна Рэвяка везла кнігі не для продажу, а для распаўсюду сярод сяброў і знаёмых Алеся Бяляцкага.

Паводле агучанага сёння судовага рашэння, скарга Таццяны Рэвяка не задаволена.

Як распавяла праваабаронца, у судовым рашэнні яна не знайшла нічога ўцямнага і напісала заяву на атрыманне матывацыйнай часткі. Пакуль жа сваю матывацыю суддзя Таццяна Емельяновіч патлума-

чыла на словах.

- Суддзя сказала, што прызнае экспертызы па кнізе непрымальнымі, але прыняла іх да ўвагі як меркаванне спецыялістаў. Рашэнне яна прымала сыходзячы з унутраных перакананняў. У выніку кніга забаронена, - распавяла Таццяна Рэвяка.– Але сам факт, што экспертызы прызнаныя непрымальнымі, вельмі паказальны. Гэта пацвярджае, што Ашмянская мытня парушала закон.

Да ацэнкі рашэння суда Ашмянскага раёна праваабаронцы ПЦ "Вясна" вернуцца, калі атрымаюць матывацыйную частку.

## Гародня: штрафы чатыром удзельнікам выбарчага пікету АГП

У Гродне 12 лютага адбыліся адміністрацыйныя працэсы над сябрамі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, удзельнікамі выбарчага пікету на вуліцы Ажэшкі 7 лютага. У выніку тры чалавекі – Аляксандра Васілевіч, Ежы Грыгенча і Руслан Кулевіч былі аштрафаваны на 15 базавых велічынь кожны. Ірына Давідовіч, сябра АГП з Іўя, была аштрафавана на 10 базавых велічынь. Суд улічыў, што яна беспрацоўная і на яе ўтрыманні знаходзяцца двое непаўналетніх дзяцей.

Сябры АГП былі выкліканыя ў Ленінскі РАУС Гродна з самай раніцы. Цэлы дзень іх трымалі ў міліцыі, не выпусціўшы нават паабедаць. Пасля 14.30 у РАУС прыехала суддзя Алена Пятрова, якая і аформіла пастановы аб пакаранні. Сведкай супраць удзельнікаў выбарчага пікету АГП, усе з якіх збіраюцца балатавацца кандыдатамі ў дэпутаты, выступалі міліцыянты і прадстаўніца гарадской выбарчай камісіі Ірына Вішнеўская. Апошняя ў час пікету была прысланая на месца яго правядзення. Судовыя працэсы скончыліся толькі бліжэй да шостай гадзіны вечару.

Міліцыя і суддзя палічылі, што актывісты АГП займаліся не толькі выбарчымі справамі і парушылі заканадаўства, паколькі адначасна збіралі подпісы супраць увядзення новага падатку на



аўто. Сябры АГП катэгарычна нязгодныя з такім сцверджаннем і збіраюцца аспрэчыць рашэнні суддзі Алены Пятровай у судзе вышэйшай інстанцыі.

## Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі абмеркаваная на круглым стале Парламенцкай Асамблеі АБСЕ

13 лютага ў Вене пачалася праца чарговай зімовай сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ (ПА АБСЕ),




у якой прымаюць удзел больш за 260 дэпутатаў з 54 краін. Удзел у паседжанні Камітэта па дэмакратыі, правах чалавека і гуманітарных пытаннях Парламенцкай Асамблеі прыняў намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" Валянцін Стэфановіч.

¨н паведаміў, што сёння адбыліся дэбаты па тэме верхавенства права праз прымяненне нормаў міжнароднага права, у якіх прымалі ўдзел дырэктар бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ Янэз Ленарчыч і прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дунья Міятавіч.

У дэбатах прымалі ўдзел і спецыяльна запрошаныя прадстаўнікі розных краін: лідар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» і былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў, кіраўнік Інстытута па правах прэсы Рашыд Хаджылі (Азербайджан), дырэктар Казахстанскага бюро па правах чалавека Яўген Жоўціс, Нурыцін Дэмір (Нацыянальная асамблея Турцыі), а таксама Валянцін Стэфановіч.

У гэты ж дзень адбыўся Круглы стол па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Мадэратарам выступіў кіраўнік рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ па Беларусі Крысціян Хольм (Швецыя).

Паседжанне зімовай сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ працягнецца заўтра, 14 лютага.

# Народ



***Ну вось і сталася. Прынёсшы вялікія і балючыя ахвяры за права быць свабоднымі і годнымі людзьмі, украінскі Майдан знёс існы рэжым. Украінскі дыктатар спешна кінуў сваю рэзідэнцыю і рвануў у невядомым ні для іншых, ні для сябе кірунку. Не хапае яму месца ва Украіне, бо на вуліцы выйшаў Народ.***

Яго бліжэйшыя паплечнікі таксама, кучамі і паасобку ратуюць сябе і сваю маёмасць. Маёмасць у многіх даволі важкая, абцяжарвае і перашкаджае быць дастаткова мабільнымі ў гэтай новай і нязвыклай для іх ролі. А сітуацыя патрабуе хуткасці ды кемлівасці, ад чаго тыя даўно адвыклі па прычыне непатрэбнасці гэтых якасцяў на іх нядаўніх пасадах. І нават моцныя і спартовыя байцы “беркута” ды іншых спецпадраздзяленняў, натрэніраваныя хутка нейтралізоўваць фізічна слабейшых за сябе іншых прадстаўнікоў чалавечай расы, тэрмінова шукаюць сабе новых гаспадароў. Бо тыя іншыя прадстаўнікі чалавечай расы аказаліся мацнейшыя за іх у першую чаргу духам, воляй, верай і праўдай.

Ці хто мог прагназаваць такі сцэнар яшчэ зусім нядаўна? Прынамсі не былы ўжо кіраўнік Украіны. Ён адчуваў сябе надзвычай упэўнена, як усе трымальнікі поўнай улады. І стараўся паказаць гэта ўсяму свету сваёй здзеклівай і пагардлівай усмешкай, якая практычна ніколі не спаўзала з яго самаўпэўненага твару. Ну хто яго мог скінуць? Няўжо тыя людзі, на якіх ён абыякава паглядаў зверху ў ніз? Ён быў упэўнены, што ніхто. Тыповы самападман дыктатараў.

Ён жа думаў, што ў яго ўсё пад кантролем. Сілавікі, высокія вайсковыя і міліцэйскія чыны, алігархі, бізнесоўцы, банкіры… Усе яны елі з яго далоняў і з яго дазволу. А таксама ў яго зброя, тэхніка і магутныя ўсходнія саюзнікі, якія зусім нядаўна ўратавалі нават сірыйскага хіміка ад самых амерыканцаў. Ды і яму па першай патрэбе кінулі неабходную колькасць мільярдаў у чыстай валюце. А значыць кінуць усё што будзе патрэбна. У тым ліку і танкі.

А ўсходнія саюзнікі ўкраінскага дыктатара таксама не маглі і ў страшным сне прадбачыць таго, што адбылося. Яны ж махалі ажно пятнаццаццю мільярдамі пад носам, як яны думалі, украінскага народу! Гэта ж так шмат! І як ім, прывыкшым усё купляць і ўсіх запалохваць было ўцяміць, што ёсць багата людзей, якія не прадаюцца і не запалохваюцца. І вялікая частка такіх людзей жывуць зусім недалёка, у суседняй Украіне. А нос, перад якім яны махалі сваімі купюрамі, аказаўся не носам украінцаў, а носам усяго толькі Януковіча і яго клана.

І іх разумныя дарадцы не змаглі своечасова папярэдзіць, што пярун ужо грымнуў, а пераджагнацца не паспелі. Можа таму не паспелі, што не прывучаныя да такога рытуалу. Бо каб былі прывучаныя, то дыктатарскія рэжымы не ўсталёўвалі б, не падтрымлівалі б і не ўтрымлівалі б.

Ды што там іх тлустыя і лянівыя дарадцы! Тут нават сусветна вядомыя палітычныя аналітыкі ды найбольш уплывовая прэса не могуць пазбавіцца ад стану разгубленасці. Здавалася б, яны то ўжо ўсё ведаюць. Вось і расійскага кіраўніка абвесцілі самым уплывовым палітыкам году. Бо ніхто не змог таго перайграць у апошні час на палітычнай мапе планеты. І тут, раптам, звычайныя людзі сабраліся ў цэнтры Кіева, і разбілі ўшчэнт тэорыю палітычнай моцы начальніка Расеі. Нічога не змог ён пакуль што супрацьпаставіць цвёрдасці і адвазе звычайных патрыётаў, аб’яднаных прагай свабоды і справядлівасці.

Не могуць зразумець, што адбылося, і іншыя дыктатары па ўсёй планеце. Усе яны чамусьці перакананыя, што менавіта яны то найразумнейшыя і ніколі не зробяць памылак сваіх папярэднікаў. І ніяк не могуць уцяміць, што памылку зрабілі ўжо тады, калі ўладу прыбралі да сваіх рук. І што далей, пасля гэтай памылкі, ад іх ужо нічога не залежыць. Залежыць толькі, і выключна ад народу, які рана ці позна выходзіць даказаць, што ён Народ. І тады сыплюцца ўсе дыктатарскія рэпрэсіўныя набудовы, прадаюць учарашнія халуі ды служкі, адварочваюцца тыя, хто ліслівa кляўся ў вернасці. Але ў небяспечны момант іх няма. Адна пустэча. А за вокнамі рэзідэнцыі бачна, як ідзе Народ.

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на сакавік 2014 году

**4 сакавіка**

530 гадоў таму (1484) – У Гародні памёр Казімер, сын вялікага князя ВКЛ Казімера IV Ягелончыка, патрон Гарадзенскага біскупства. Пахаваны ў віленскім катэдральным саборы (капліца Сьв. Казімера). Кананізаваны ў 1521. Дзень Сьвятога Казімера.

10 гадоў таму (2004) – Памёр Міхась Навумовіч, дзеяч беларускай эміграцыі (Францыя). Нараджэнец Наваградчыны.

**6 сакавіка**

70 гадоў таму (1944) – Выдадзены ўказ аб стварэньні Беларускай Краёвай Абароны (БКА).

15 гадоў таму (1999) – У Вільні памёр Міхаіл Петрыкевіч, беларускі краязнавец, музеязнавец, педагог. Нараджэнец в. Падкасоўе (Навагрудзкі р-н). Пахаваны на могілках Карвялішкес ля Вільні.

**8 сакавіка**

100 гадоў таму (1814) – Памёр Юзаф Несялоўскі (нар. у 1728), апошні наваградзкі ваявода, удзельнік паўстаньня 1794. Меў родавы маёнтак у Варончы, пахаваны ў крыпце мясцовага касьцёлу.




25 гадоў таму (1989) – Памёр Мікола Ягаўдзік, беларускі вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Бельгія, ЗША). Нараджэнец Слонімшчыны.

**9 сакавіка**

355 гадоў таму (1659) – Маскоўскі гарнізон у Гародні разам з ваяводам здаўся войску гетмана Паўла Сапегі.

**10 сакавіка**

125 гадоў таму (1889) – У Гародні нарадзіўся Уладзімір Пігулеўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, пісьменьнік.

**13 сакавіка**

80 гадоў таму (1934) – У в. Стральцы (Гарадзенскі р-н) нарадзілася Аўгіньня Кавалюк, паэтка, перакладчыца. Жыла і працавала ў Латвіі, Санкт-Пецярбургу.

**15 сакавіка**

125 гадоў таму (1889) – На Віленшчыне нарадзіўся Павал Пякарскі, беларускі каталіцкі сьвятар. У 1925-32 служыў пробашчам у Жупранах, быў кіраўніком Ашмянскага дэканату.

20 гадоў таму (1994) – У Менску на 13-й сэсіі Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня была прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

**16 сакавіка**

15 гадоў таму (1919) – У Гародні выйшаў першы нумар газеты “Бацькаўшчына” (выдавалася да 28 сакавіка).

**17 сакавіка**

15 гадоў таму (1999) – Памёр Міхась Біч, беларускі гісторык. Нараджэнец в. Мілявічы (Мастоўскі р-н).

**18 сакавіка**

120 гадоў таму (1894) – У в. Барані (Астравецкі р-н) нарадзіўся Альбін Стаповіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст.

**19 сакавіка**

40 гадоў таму (1974) – Памёр Эдуард Сташкевіч, удзельнік беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50. Пахаваны ў Солах (Смургонскі р-н).

**21 сакавіка**

165 гадоў таму (1849) – У Вільні ў турме, засуджаны да 20 гадоў катаргі за перавоз нелегальнай літаратуры, памёр Аляксандар Незабытоўскі, беларуска-польскі пісьменьнік, філосаф, гісторык. Нараджэнец Наваградчыны.

**22 сакавіка**

150 гадоў таму (1864) – У Вільні на Лукіскім пляцы павешаны Кастусь Каліноўскі, кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня. Магіла была паблізу сёньняшняй вежы Гедыміна.

**23 сакавіка**

115 гадоў таму (1899) – У Жалудку (Шчучынскі р-н) нарадзілася Вольга Галіна (дзявочае Грудзінская, па мужу Александроўская), беларуская акторка, педагог.

**24 сакавіка**

220 гадоў таму (1794) – Пачалося вызвольнае паўстаньне на чале з Тадэвушам Касьцюшкам.

**27 сакавіка**

115 гадоў таму (1899) – У в. Малая Бераставіца (Бераставіцкі р-н) нарадзіўся Аляксей Васіленя, грамадзка-палітычны дзеяч, у другую сусьветную вайну кіраўнік Беларускай Народнай Самапомачы ў Слоніме, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія).

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: люты 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка абавязковая

